# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 13 (787) ГОД XVI БЕЛАСТОК 28 САКАВІКА 1971 г. ЦАНА 60 гр.

XV ГОД

## ПРА КРЫВЯЦІЦКІ ГУРТОК

Вёска Крывяцічы, у якой жыве 90 гаспадароў, знаходзіцца ў некалькіх кіламетрах за Орляй, у Бельскім павеце. Гурток БГКТ існуе ў Крывяцічах ад 1965 года.

— Быў ён і раней, — кажа Янка Кірызюк, які з'яўляецца цяпер старшынёю гэтага гуртка, — аднак ніякай актыўнасці ён не праяўляў. Прыйшлося арганізаваць усё ад пачатку. Цяпер наш гурток налічвае 19 членаў, у асноўным гэта маладыя дзяўчаты і хлопцы.

— А чым ён займаецца, што робіць?

— Члены нашага гуртка ў 1967 і 1968 гадах прымалі ўдзел у будове дарогі, якая спалучае Орлю з Крывяцічамі, дапамагалі будаваць вясковую святліцу...

Калі ўспомніў ён пра гэтую святліцу, яго чорныя, дапытлівыя вочы загарэліся вясёлым агеньком.

— О, са святліцай у нас была цэлая гісторыя! — усклікнуў ён. — Яна будавалася вельмі доўга. Усё не хапала грошай. Колькі я наездзіўся па гэтай справе! Асабліва ў апошнія гады. На шчасце, меў я добрую падтрымку з боку іншых аднавяскоўцаў. Калі ўдасца, бывала, нам вырваць ад прэзідыума некалькі тысяч злотых, дык я хутка скліваю сваіх хлопцаў, купляем мы патрэбны матэрыял і прыступаем да працы. Выступалі мы дружна. Найчасцей у нядзелю, бо многія з нашых членаў або вучацца, або працуюць, і ў рабочыя дні не хапае ім часу. Такім чынам залілі мы фундамент, навазілі пяску, зрабілі сходы, агарадзілі плотам і выканалі штукатурку. Гэта праца нашых рук. Дык мы па праву можам лічыць сябе гаспадарамі нашай святліцы. Часта там праводзім час. Але...

Ён нерашуча паглядзеў на мяне.

— Калі ласка, смела, — заахвочваў я яго. — Якое ў вас «але»?

— У нашай святліцы пасяліўся клуб «Руху». Мы супраць гэтага ніколі не былі і нічога цяпер таксама не маем. Наадварот, дамагаліся, каб «Рух» адкрыў у нас свой клуб. Але гаспадыня ў клубе цяпер Оля Дружба — жанчына замужняя. Зразумела, што ёй заўсёды спешна дадому. Дык зачыняе яна свят-



*Янка Кірызюк. Фота Цаф — Сянько*

Працяг на стар. 4



*Беластоцкі дзяржаўны сімфанічны аркестр у фінальным канцэрце выконвае III сімфонію Л. Бетховена. На фартэпіяна іграе піяніст Раман Палечны. Дырыжор Ян Куляшэвіч.*

«МУЗЫКА І ПАЭЗІЯ»



## ВЫСОКАЯ АЦЭНКА



*Як непаўторны Дон Жуан выступіў Анджэй Лапіцкі — бліснуў вялікім талентам, дасканалым выканаўствам.*

Прагучэлі апошнія акорды гераічнай III сімфоніі Л. Бетховена і закончыўся III агульнапольскі фестываль «Музыка і паэзія» у Беластоку. Было гэта нядзельным вечарам у тэатры Вянгеркі ў Беластоку.

Праз сцэну горада за восем вечароў фестываля прайшлі выканаўцы высокага класа. Музыка і паэзія розных народаў і розных краін зышлася ў гэтым фестывалі ў горадзе Беластоку. Канцэртныя залы ў час фестывалю былі перапоўненыя. Не хапала месца. Людзі сталі, сталі і слухалі.

Пасля кожнага канцэрта за кулісамі збіраліся маладыя. Сталі ў доўгай чарзе па аўтографы выканаўцаў. Пайшла і я неяк пабачыць, як гэта адбываецца. Спаткала якраз Барбару Алькушнік, вядомую танцаўшчыцу, дробную жанчынку, якая, хаця змучаная, брала з выцягнутых рук лісты паперы, а часцей альбомы і пісала: Ані ці Галі на памяць, і клала потым свой подпіс. Для выканаўцаў быў гэта працяг іх працы.

Героем фестывалю быў Беластоцкі дзяржаўны сімфанічны аркестр, якім дырыжыраваў Ян Куляшэвіч, ято першы дырыжор і дырэктар. Аркестр выступіў у першы вечар і апошні. Трэба сказаць, што гэтыя два вечары фестывалю з удзелам аркестра мелі найбольш слухачоў.

Публікуем фотарэпартаж нашага фотарэпарцёра з фестывалю «Музыка і паэзія» ў Беластоку.



*Скрыпачка Кая Данчоўская выступіла ў пятым вечары ў вялікай аўлі Беластоцкай медыцынскай акадэміі.*
*Фота Цаф — Сянько*

## ГАСПАДАРЧЫЯ НАМЕРЫ БЯЛЬЧАН

Гаспадарчы план на 1971 год у Бельскім павеце прадугледжвае заканчэнне камасацыі ў вёсках Рыбалы, Паўлы, Канюкі, Цялушкі, Локніца, Мякішы, Трашчоткі; пачнецца таксама камасацыя ў вёсках Нурэц, Шашылы, Чэхі Забалотныя, Паўлінава і Алекшы, заканчэнне якой прадугледжваецца на 1972 год.

У выніку камасацыі будзе спалучана 896 гектараў зямлі з дзяржаўнага фонду. На гэтых землях будзе створаны ПГР у Рыбалах, частка зямлі будзе перададзена ПГР-у ў Вандаліне і тэхнікуму рахункаводства ў Бельску.

У 1971 годзе ў павеце плануецца павялічыць пасевы збожжа на 2500 гектараў, і, такім чынам, пасевы збожжа складуць 46.200 га або 59,6% у структуры пасеваў.

Маючы на ўвазе пашырэнне плошчы пад пасевамі пшаніцы і ячменю за кошт менш ураджайнага аўса, можна спадзявацца, што плошча, запланаваная пад збожжа, будзе дастатковай, каб забяспечыць мясцовыя патрэбы ў збожжы і запланаваную колькасць збожжа прадаць дзяржаве.

Бульба займае цяпер каля 18% плошчы. Гэта задавальняе патрэбы павета і экспарту, і таму не прадугледжана павялічваць плошчы пад бульбу. У 1971 годзе плошча пад бульбай будзе складаць 13,5 тыс. га.

У 1971 годзе плануецца аднавіць насенне збожжа, на што прызначана 2.031 тона кваліфікаванага зерня. Практыка паказала, што сеў кваліфікаваным насеннем дае павышэнне ўраджаю на тэрыторыі павета прыблізна на 3 цэнтнеры, а бульбы — на 40 цэнтнераў з гектара.

Найлепшыя вынікі па выкананню праграмы мінеральных угнаенняў маюць наступныя грамады: Рудка — 112,7 кг NPK, Андрыянкі — 104,9 кг, Боцькі — 102 кг.

Найгоршыя вынікі — у грамадах Рыбалы — 45,2 кг, Бельск — 51,2 і Снежкі — 52,1 кг.

У нашым павеце ўзровень выкарыстоўвання мінеральных угнаенняў у сялянскіх гаспадарках значна ніжэйшы, чым у сярэднім па ваяводстве. Таму ў 1971 годзе плануецца павялічыць выкарыстоўванне угнаенняў на 23 кг NPK на кожны гектар.

Нягледзячы на тое, што штогод пашыраецца барацьба са шкоднікамі і пустазеллем, сельская гаспадарка усё яшчэ панясіць вялікія страты з-за таго, што барацьба не вядзецца на ўсіх палях, асабліва законтрактаваных. Таму ў 1971 годзе плануецца ахапіць ахоўвай раслін значна большы арэал дзякуючы лепшаму выкарыстоўванню машын і хімічных сродкаў.

У 1970 годзе ў Бельскім павеце ў рамках прадпрыемстваў сельскагаспадарчай перапрацоўкі працавала сушарня ў Боцьках. Яна сушыла зялёнкі і бульбу. У 1971 годзе будзе аддадзена ў карыстанне новае прадпрыемства тако-

(Працяг на стар. 5)

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ЗА НОВУЮ БОЛЬШАСЦЬ

У Рыме адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Італьянскай кампартыі. З дакладам на тэму «За дэмакратычнае вырашэнне палітычнага крызісу» выступіў член Палітбюро ІКП Дж. Амендала. Ён даў аналіз палітычнага становішча ў краіне пасля нядаўняга выхаду з урада прадстаўнікоў рэспубліканскай партыі і ахарактарызаваў эканамічнае становішча працоўных, якія вядуць барацьбу за правядзенне шэрагу неадкладных сацыяльных рэформ.

Паводле прамоўцы, прычыны вострага і нарастаючага палітычнага крызісу ў краіне тояцца ў падзеях міжнароднага і ўнутранага характару. Так, гаворачы пра нядаўнюю паездку італьянскіх кіраўнікоў у ЗША, Дж. Амендола ўказаў, што яна «з'явілася для амерыканскага ўрада прычынай для грубага і бессаромнага ўмяшання ва ўнутраныя справы нашай краіны».

Мэта камуністаў, указаў у заключэнне Амендола, заключаецца ў тым, каб дабіцца сфарміравання ў парламенце новай большасці, якая аб'яднала б і сілы левай апазіцыі з тымі сіламі цяперашняй большасці, якія прызнаюць, што «левы цэнтр» пацярпеў банкруцтва.

### У АБАРОНУ ДЭВІС

Пастаяннае прадстаўніцтва СССР пры ААН распаўсюдзіла ў якасці дакумента адкрытае пісьмо прадстаўнікоў савецкай грамадскасці прэзідэнту ЗША Рычарду Ніксану ў абарону Анджэлы Дэвіс, адважнага барацьбіта за мір і грамадзянскія правы ў ЗША. Як вядома, А. Дэвіс пагражае смяротны прыгавор.

### АСУАНСКІ КОМПЛЕКС

Хутка адбудзецца ўрачыстае адкрыццё Асуанскага гідраэнергетычнага комплексу, пабудаванага на старажытным Ніле з дапамогай Савецкага Саюза.

Дзякуючы Асуанскаму гідраэнергетычнаму комплексу нацыянальны даход ААР у агульнай складанасці вырас, пачынаючы з 1964 года — калі быў перакрыт Ніл — да канца 1970 года, на 450 мільёнаў егіпецкіх фунтаў.

Асуанскі праект — унікальнае збудаванне, якое мае шматмэтавую накіраванасць. Яно дае электраэнергію для прамысловасці, рэгулюе сцёк нільскіх вод, арашае палі егіпецкіх сялян. Дзякуючы вышыннай Асуанскай плаціне асвоена 650.000 акраў новых зямель, 836.000 акраў пераведзена з басейнавага арашэння на пастаяннае. Значна павялічылася ўрадлівасць глебы, павялічыліся ўраджаі такіх важнейшых сельскагаспадарчых культур, як рыс, кукуруза і іншыя. Стварэнне Асуанскай плаціны і штучнага вадасховішча «Наср» акажа спрыяльнае ўздзеянне на кліматычныя ўмовы ў раёне Асуана.

### БЕСПРАЦОЎЕ Ў ФРГ

Колькасць беспрацоўных у ФРГ склала ў снежні мінулага года 175.100 чалавек, гэта на 35,2 працэнта больш, чым ў лістападзе 1970 годзе.

На прадпрыемствах ФРГ таксама значна ўзрасла колькасць асоб, занятых няпоўны рабочы дзень. (ак)



## БССР

### НАД ДЫРЭКТЫВАМІ

У праекце Дырэктываў на XXIV з'езд КПСС, між іншым, сказана:

«Пабудаваць і ўвесці ў дзеянне мазырскі нафтаперапрацоўчы завод».

Гэты каштоўны замысел ужо здзяйсняецца. Непадалёк горада Мазыра ля шашы на Ельск рабочыя ўзводзяць прамысловую і аўтамабільныя базы, цеплаэлектрастанцыю, закладаюць падмуркі завадскіх карпусоў. Будзе гэта адна з буйнейшых будоўляў дзевятай пяцігодкі, заданні якой вызначыць з'езд партыі. Ужо цяпер пры пабудове мазырскага нафтаперапрацоўчага завода занята паўтары тысячы людзей. Іх лік неўзабаве павялічыцца да 19-ці тысяч.

### НА БАЛОЦЕ ПАЛЕССЯ

У праекце Дырэктываў на XX з'езд КПСС сказана:

«У Беларускай ССР(...) асушыць 1.100 тысяч гектараў пераўвільготненых і забалочаных зямель...»

Меліярацыя Палесся з'яўляецца ўсесаюзнай ударнай камсамольскай будоўляй. На яе аб'ектах працуе зараз звыш 7,5 тысяч маладых меліяратараў. Нядаўна адбыўся ў Пінску першы злёт іх перадавых прадстаўнікоў. Яны выступілі са зваротам да ўсіх меліяратараў БССР, у якім, між іншым, гаворыцца: «Мы звяртаемся да камсамольцаў, моладзі рэспублікі з заклікам яшчэ больш актыўна ўступаць у рады меліяратараў, уліваецца ў нашу дружную працоўную сям'ю».

У гадах дзевятай пяцігодкі па выніку асушэння палескіх балот намячаецца ўвесці ў эксплуатацыю 360 тысяч гектараў урадлівых земляў, пабудаваць на іх 18 саўгасаў, стварыць 300 тысяч гектараў лугоў і пашы, пабудаваць вадасховішчы і рыбныя гаспадаркі. Гэтыя вялікія заданні бярэ на сябе слаўная беларуская моладзь.

### ГОРАД ХІМІКАЎ

Новаполацк з'яўляецца горадам беларускіх хімікаў. У ім безупынна праводзяцца работы па добраўпарадкаванню. Нядаўна маладому гораду будаўнікі перадалі ў карыстанне новую школу. У светлых класах і багата абсталяваных кабінетах можа вучыцца 1600 дзяўчат і юнакоў. Школьная сталовая разлічана на 700 месц.

### З'ЕЗД КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ

У Мінску адбыўся трэці з'езд Саюза кінематаграфістаў Беларусі. З прывітальным пісьмом да з'езда выступіў Цэнтральны камітэт КПБ. «Галоўная задача Саюза кінематаграфістаў рэспублікі, — адзначаецца ў пісьме, — усямерна садзейнічаць умацаванню сувязей кінамастацтва з жыццём народа...»

### ЗАСЛУЖАНЫ АРТЫСТ

Артысту мінскага тэатра імя Янкі Купалы У. І. Дзядзюшку прысвоена званне Народнага артыста СССР. Спецыяльную грамату ўручыў артысту 17 сакавіка г.г. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР С. О. Прытыцкі. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### СЯРОД АБАРОНЦАЎ АЙЧЫНЫ

У працы справаздачна-выбарнай партыйнай канферэнцыі Шлёнскай вайсковай акругі, якая адбылася 19 сакавіка ў Вроцлаве, прыняў удзел І сакратар ЦК партыі Эдвард Герэк. Тав. Э. Герэк выступіў там з прамовай. «Наша праграма, — сказаў ён, — з'яўляецца добрай падставай для ўмацавання пад кіраўніцтвам партыі адзінства ўсіх палякаў, дзеля павелічэння сілы нашай сацыялістычнай Айчыны». З істоты марксізма-ленінізма, які з'яўляецца нязменна жывой ідэалогіяй, вынікае неабходнасць далейшага ўзмацнення сувязі партыі з рабочым класам і ўсімі працоўнымі.

У далейшай частцы свайго выступлення тав. Э. Герэк прааналізаваў некаторыя моманты сучаснай міжнароднай сітуацыі, указваючы на асноўныя ачагі напружання ў міжнароднай сітуацыі, а адначасова — на неабходнасць далейшага ўмацавання ўнутраных і знешніх умоў нашай абароннасці. Указаў ён прытым на асаблівую ролю народнага войска ў абароне нашых межаў, народнай улады і здабыткаў сацыялістычнага ладу. Гаворачы аб выхаваўчай ролі народнага войска, тав. Э. Герэк закрануў некаторыя найбольш істотныя праблемы маладога пакалення Народнай Польшчы. Маладыя людзі з'яўляюцца не цяжарам для краіны, як гэта ім часта гаварылася, але надзеяй будучыні. Краіна ўзбагаціцца, калі новыя мільёны ахвотных і адукаваных людзей стануць пры станках. Трэба гэтым маладым людзям даць свядомасць абавязку ў адносінах да Айчыны і вялікую ідэю, вакол якой сканцэнтруюцца іх намаганні.

### ПРАБЛЕМЫ ГАСПАДАРЧАГА РАЗВІЦЦЯ

Падчас апошняга пленарнага пасяджэння Сейма з прамовай выступіў Старшыня Рады Міністраў тав. Пётр Ярашэвіч. Праінфармаваў ён Сейм аб працы ўрада за перыяд ад папярэдняй сесіі Сейма. Урад паслядоўна выконваў у гэты час праграму, прынятую на VII і VIII Пленумах Цэнтральнага Камітэта партыі, праграму, якая вызначае далейшыя дарогі сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне, праграму дынамічнага і гарманійнага кіравання планам развіцця гаспадаркі, грамадскага жыцця і культуры.

У далейшай частцы свайго выступлення прэм'ер інфармаваў аб намаганнях ўрада ў галіне павышэння прадукцыі мяса, аб значэнні павышэння цэн скупкі мяса і малака, аб праблемах паляпшэння абароту сельскагаспадарчымі прадуктамі, аб развіцці прамысловасці перапрацоўкі гэтых прадуктаў. Далей прамоўца праінфармаваў Сейм аб найважнейшых гаспадарчых справах, якімі зараз займаецца ўрад.

«Перад урадам стаяць вельмі цяжкія заданні, — сказаў у канчатковай частцы свайго выступлення прэм'ер. — Іх выкананне патрабуе паўсюднай грамадскай і дзяржаўнай дысцыпліны, ладу і парадку, а перш за ўсё атмасферы нарастаючай палітычнай і гаспадарчай актыўнасці ўсіх рабочых калектываў, сялян, інтэлігенцыі...» (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВК ПАРП

18 сакавіка ў Беластоку адбыўся пленум Ваяводскага камітэта партыі, прысвечаны падрыхтоўцы да ваяводскай партканферэнцыі. На пленуме прысутнічаў намеснік кіраўніка арганізацыйнага аддзела ЦК тав. І. Лапатынскі.

Пасля абмяркоўкі праекта справаздачы за мінулы перыяд і дыскусіі над напрамкамі дзейнасці ў бліжэйшыя гады, былі абмеркаваны спосабы правядзення канферэнцыі. Пленум ВК прыняў пастанову, згодна з якой ваяводская партыйная канферэнцыя адбудзецца 3 і 4 красавіка. Створаны камісіі для канцовага адрэдагавання праекта справаздачы за 1969—70 гады, праекта праграмы на 1971—72 гады. Апрача гэтых справаздач дэлегаты загадзя атрымаюць справаздачы аб працы партыйных аддзелаў, бюлетэнь, а таксама камунікат ВУС аб выкананні гаспадарчага плана.

### ПАВЯТОВЫЯ З'ЕЗДЫ ЗСЛЬ

У нашым ваяводстве канчаецца ўжо справаздачна-выбарная кампанія павятовых арганізацый ЗСЛь. У мінулую суботу адбыўся павятовы з'езд у Сэйнах, а ў нядзелю — ў Алецку.

На з'ездзе ў Сэйнах гасцямі былі ад Галоўнага камітэта ЗСЛь Ян Рызнар, а з ваяводства — прэзас ВК ЗСЛь Т. Гоздэк. З'езд прайшоў у атмасферы поўнага зразумення дзяржаўных патрэб і творчага ўдзелу вёскі ў выкананні пастаноў цэнтральных улад ПАРП і ЗСЛь.

### БОЛЬШ УВАГІ МОЛАДЗІ

У мінулым тыдні Акруговае праўленне ПТТК ў Беластоку правяло ў Белавежы чарговае пленарнае пасяджэнне. Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі недахопы ў працы праўлення і вялікую ўвагу звярнулі на недастатковую працу са школьнай і рабочай моладдзю. Было вырашана, што ўсе камісіі і аддзелы апрацуюць канкрэтныя планы працы з моладдзю.

### ТЫДЗЕНЬ КУЛЬТУРЫ НА ДАРОГАХ

Як і ў мінулыя гады, з мэтай паляпшэння бяспекі на дарогах, матарызацыйная рада вырашыла арганізаваць ад 18 да 25 красавіка тыдзень культуры на дарогах. Тэрмін тыдня культуры дапасаваны да пачатку спартыўнага сезона і Дня транспартніка і дарожніка. Лозунгам тыдня будзе «Дапамагай старэйшым на дарозе». Гэты лозунг зверне ўвагу шафёраў на правы пешаходаў і асабліва на старэйшых людзей на дарогах. Пешаходам будуць прыпамінацца правілы пераходу праз вуліцы і дарогі, а таксама аб неабходнасці дапамагаць старэйшым людзям на дарозе.

### ЗНОЎ БУДЗЕ ЛЁН

Беласточчына здаўна славілася ў краіне вырошчваннем ільну. Але ў апошнія гады плошча пад ільном у нашым ваяводстве значна зменшылася. У гэтым годзе будуць створаны лепшыя ўмовы для вырошчвання ільну, асабліва ў Беластоцкім, Дуброўскім, Гайнаўскім, Сакольскім і Сямяціцкім паветах. У гэтых паветах сяляне атрымаюць да ўласнага выкарыстання спецыяльныя пункты механічнай апрацоўкі. Гэтыя пункты закупяць сельскагаспадарчыя гурткі і машынныя базы. (яч)




**NIEDZIELA, 28.III.**

8.00 Program dnia. 8.05 TV Kurs Rolniczy: „Uproszczona uprawa okopowych". 8.40 „Przypominamy, radzimy". 9.00 TV Klub Śmiałych. 10.50 VIII Festiwal Filmów Starych („W starym kinie"). 11.45 „Spotkanie z rosyjskim muzeum" („Szlakami zabytków"). 12.10 Dziennik. 12.25 „Przemiany". 12.55 PKF. 13.05 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej o Mistrzostwo I Ligi „Ruch" — „Gwardia" (II połowa). 14.00 Teatrzyk dla Przedszkolaków: „Dobra, mądra papuga". 14.40 „Był tylko jeden Romer..." („Wielcy znani i nieznani"). 15.20 „W obiektywie". 15.45 „Klub 13 krzeseł" — program TV Moskwa. 16.55 „Piotr Breughel" („Portrety"). 17.50 „Łowcy Dinozaurów" („Klub Sześciu Kontynentów"). 18.30 TV Spotkania Teatralne: G. Feydeau — „Dudek". 19.30 Dobranoc. 19.40 Dziennik. 20.15 „Kto winien" — film fab. wł. 21.35 PKF. 21.45 Magazyn sportowy. 22.15 Studio Współczesne: P. Karvas — „Mała ankieta".

**PONIEDZIAŁEK, 29.III.**

15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 18.00 „Kino Filmów Animowanych". 18.30 „Za kręgiem polarnym" — film Tele-Aru. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Scena Prozy: Wł. St. Reymont — „Jesień" wg powieści „Chłopi". 21.30 Mistrzostwa Świata w hokeju na lodzie. Mecz: Czechosłowacja — Szwecja (koniec II i III tercja). W przerwie ok. 22.00 Dziennik.

**WTOREK, 30.III.**

10.00 „Żegnajcie gołębie" — film fab. radz. 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — E. Bryll „Rzecz listopadowa". 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Biologiczne i agrotechniczne metody ochrony roślin". 15.20 i 23.00 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran Młodych. 18.30 „Ballada o górach Chibińskich" — film Tele-Aru. 18.50 „Z drugiej strony szyldu". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Kino Interesujących Filmów: „Żegnajcie gołębie" — film fab. radz. 21.35 „Wizje lokalne" — rep. 22.05 „Rytmy południowo-amerykańskie" — program rozrywkowy. 22.40 Dziennik.

**ŚRODA, 31.III.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Prąd zmienny". 10.30 „Portret Fleur" — film tv ang. („Saga rodu Forsytów"). 12.45 „Wybieramy zawód". 15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Latający Holender — poławiacz ciekawostek morskich". 17.15 Magazyn ITP. 17.30 „Tak czy może inaczej" — rep film. 18.00 „Tahiti i Nowe Hebrydy" — film dokument. szwedzki. 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Złoty fundusz" — rep. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Portret Fleur" — film tv ang. („Saga rodu Forsytów"). 20.55 Światowid. 21.40 Muzyka Krajów Nadbałtyckich. 22.10 „Lektury współczesne". 22.20 PKF. 22.30 Dziennik.

**CZWARTEK, 1.IV.**

8.15 Matematyka w szkole: „Elementy teorii grup" (zajęcia fakultatywne) (III). 9.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — „Bolesław Prus". 9.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „Nasz dzień powszedni". 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — „Henryk Sienkiewicz". 12.45 i 13.30 Mechanizacja Rolnictwa: „Ogrodzenia elektryczne" cz. I i II. 15.20 i 22.50 Politechnika TV I roku. Fizyka. „Zderzenia ciał". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.40 „Zrób to sam". 17.55 „Bank wynalazków". 18.25 „Praski Sherlock Holmes" — film czechosł. 18.40 „My i oni". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Dialog o sztuce". 20.30 Mistrzostwa Świata w hokeju na lodzie. Mecz: Zw. Radz. — Czechosłowacja. W przerwie ok. 21.50 Dziennik.

**PIĄTEK, 2.IV**

9.00 Dla szkół (kl. VII) Zajęcia techniczne — „Usprawniajmy własną pracę". 9.30 „Partyzanckim szlakiem" — film fab. jugosł. 11.10 „Pożegnanie" — film TVP („Doktor Ewa"). 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie plastyczne — „Tkanina dekoracyjna", 14.50 Fizyka dla nauczycieli: „Elementy fizyki ciała stałego" (IV). 15.20 i 23.00 Politechnika TV I roku. Rysunek techniczny. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.45 „Kurierzy tatrzańscy" — rep. 18.10. „Gramy o telewizor" — teleturniej. 18.30 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 Magazyn Medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Pożegnanie" — film TVP („Doktor Ewa"). 20.40 „Kraj". 21.20 Teatr TV: J. Krzysztoń — „Towarzysz N". 22.40 Dziennik.

**SOBOTA, 3.IV.**

8.50 „Natalie" — film czechosł. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Wzrok". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Japonia". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Obywatelskie prawa i obowiązki". 14.45 Program dnia. 14.50 TV Kurs Rolniczy: „Informacja dla służby rolnej". 15.25 Program tygodnia. 15.45 „Oferty". 16.00 „Panorama Literacka" — „Kolumbowie na pięknym statku" (literatura dla młodzieży). 16.30 Dziennik. 16.40 Teatr Młodego Widza: H. Bardijewski — „Rycerz". 17.20 „Spotkania z przyrodą". 17.45 „Dwaj synowie" — film NRD. 18.10 „Tele-Echo". 19.00 Mistrzostwa Świata w hokeju na lodzie. Mecz Zw. Radz. — Szwecja. Grupa A — II runda. Po transmisji ok. 21.15 Monitor. 22.00 „Muzyka lekka, łatwa i przyjemna". 23.00 „Natalie" — film czechosł.




**Piątek, 26 marca**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla uczniów. 8.45 Spektakl TV. 9.55 Program sportowy. 10.55 Reportaż przedzjazdowy. 11.10 Nowiny. 13.35 Program dnia. 13.40 Spektakl kukiełkowy dla dzieci. 14.35 Dla uczniów. 15.15 Panorama nowin. 15.30 Śpiewa Ł. Iwaszkow. 16.05 Film dokument. 16.55 Komuniści Chile. 17.20 Film fab. 18.45 Czas. 19.15 Turniej TV. 20.00 Hokej. Szwecja — ZSRR.

**Sobota, 27 marca**

8.15 Białe i czarne. 8.35 Koncert. 9.00 Spektakl kukiełkowy dla dzieci. 10.00 Dla uczniów. 11.00 Komunista i jego sprawy. 11.15 Program literacki. 11.50 Przegląd międzynarodowy. 12.05 Film fab. dla dzieci. 13.10 Dla wsi. 13.40 Tańczcie z nami. 14.00 Szkatułka muzyczna. 14.10 Z historii pieśni radzieckiej. 14.25 Mistrzostwa ZSRR w boksie. 15.20 Spotkanie poetów białoruskich z pracownikami PGR „Progres" pod Grodnem. 16.00 Nowiny. 16.05 Film dokument. 17.00 W eterze „Młodość". 18.45 Czas. 19.15 Międzynarodowy Dzień Teatru. 19.45 Komedia filmowa. 21.00 Hokej. ZSRR — NRF.

**Niedziela, 28 marca**

8.00 Kraj przed zjazdem. 8.30 Kiosk muzyczny. 9.00 Olimpiada szkolna (fizyka). 10.15 Spektakl kukiełkowy. 11.00 Budowniczy. 11.35 Z historii muzyki białoruskiej. 12.10 Panorama międzynarodowa. 12.35 Dla wsi. 13.35 Hokej. ZSRR — NRF (powtórzenie). 14.10 Dla uczniów. 15.00 Klub filmowy. 16.00 Nowiny. 16.05 Film dokument. 17.00 Koncert. 19.00 Czas. 19.30 Wieczór twórczy Teatru Małego ZSRR.

# У НАРАЎСКАЙ ГРАМАДЗЕ ПА-РОЗНАМУ

Добра можна сказаць аб дзейнасці ПОП у многіх вёсках грамады Нараў, Гайнаўскага павета. І так раскажу аб іх па чарзе. Па ініцыятыве ПОП у Храбустоўцы ўтварыўся ў гэтай вёсцы сельскагаспадарчы гурток, а таксама пабудаваны грамадскім чынам адрэзак дарогі, спалучаючай Храбустоўку з Васькамі.

ПОП у Адрынках выступіла,



*Нараў. На першым плане будынак ГС.*

між іншым, з прапановай перабудовы дарогі цераз вёску. Члены партыі супольна з адрынкаўскім насельніцтвам шмат папрацавалі грамадскім чынам пры пабудове крамы, пры электрыфікацыі вёскі, а таксама зрабілі шмат намаганняў для заснавання клуба «Рух».

ПОП з Ванева арганізавала грамадскі чын пры пабудове грэблі з Ванева да Пашкоўшчыны і г.д. Грамадскі камітэт у Нарве прыняў у рады партыі перадавых сялян, стварыў так званыя адчытовыя пункты па партыйнай адукацыі ў такіх вёсках, як Рыбакі,



*Асада Нараў — агульны выгляд.*

Янава і Цімохі, шмат увагі прысвяціў працы маладзёжных жаночых арганізацый, звярнуў увагу на тое, каб ГС і сельскагаспадарчыя гурткі частку грошай са свайго фонду прызначылі на арганізаванне курсаў для вясковых жанчын, на куплю для іх інспектавых шыб і г.д.

Кепска можна сказаць аб працы сельскагаспадарчых гурткоў у такіх мясцовасцях, як Адрынкі, Нараў і Гародчына. У гэтых гуртках не было чыстага зыску з-за частых рамонтаў сельгасмашын, з-за іх неадпаведнай кансервацыі або неўласцівага выкарыстоўвання і г.д. Апрача таго, працаю сельгасгурткоў замала цікавіліся рэвізійныя камісіі.

Іншай справай з'яўляецца недастатковае забеспячэнне ГС-аўскіх крамаў харчовымі прадуктамі нават першай патрэбы. ГС выканаў толькі малую колькасць заказаў на розныя артыкулы, якія складала мясцовае насельніцтва.

Важнай справай з'яўляецца таксама справа культурнага жыцця ў самой асадзе Нараў. Лепш ужо мае дзе культурна правесці свой вольны час моладзь з Адрынак (клуб «Рух») або з Макаўкі (святліца).

Справа развіцця культурнага жыцця маецца тут найгорш. Дзіўны гэта факт, жыве ж у гэтым мястэчку каля дзвюх тысяч насельніцтва, на месцы ёсць ГРН, ПОМ, СУВ, пункт аховы здароўя, школа, пошта і г.д. Зараз добра працуе ў Нарве бібліятэка, але па-за ёю няма куды дзецца ў доўгія зімовыя вечары, прынамсі 100-асабовай групе моладзі, не гаворачы ўжо аб старэйшых. Хіба што ў мясцовай гасподзе...

Раней была тут клуба-кавярня, а не было кіраўніка. Панішчылі столікі, іншыя рэчы, і клуб закрылі. І сёння моладзь не мае дзе збірацца і культурна праводзіць час.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкі*

П.С. Нядаўна прыемнай весткай парадаваў нас І сакратар КГ ПАРП тав. Пётр Вярбіцкі, які паінфармаваў, што ў канцы красавіка гэтага года адкрыецца ў Нарве клуб «Руху» ў рамізе супрацьпажарнай каманды.

*Я. Ц.*



*На нараўскай вуліцы.*

## У ПОШУКАХ ШЧАСЦЯ

У зале каля сарака чалавек рознага ўзросту. Ёсць сярод іх сівыя ўжо дзядулі і бабулі, пенсіянеры і пенсіянеркі, ёсць мужчыны і жанчыны ў сіле веку, а таксама некалькі чалавек моладзі. Людзі слухаюць лекцыі «аб шчасці». Незвычайная тэма. Дакладчык выступае ў ролі спецыяліста. Але ці можа быць спецыяліст ад чалавечага шчасця?

Тэмай шчасця займаюцца філосафы. Але філосафы таксама часта нешчаслівыя. І вядома, што ніводзін дакладчык — спецыяліст не навучыць сваіх слухачоў быць шчаслівымі.

Дакладчык зрабіў інакш. Напісаў на дошцы крэйдай пытанне: «Што такое шчасце?» і казаў слухачам адказваць на яго на асобных кавалках паперы. У зале ці-




шыня. Прысутныя задумваюцца над сваім шчасцем, над шчасцем і няшчасцем сваіх блізкіх і знаёмых. Потым пішуць.

Што такое шчасце?

«Шчасце — гэта нейкая прыемная нечаканасць, нейкі поспех, якога чалавек не спадзяваўся». «Гэта добрая жонка і фартуна, выйграная на латарэі».

Так пішуць некаторыя са слухачоў. Дакладчык чытае картачкі, потым іх класіфікуе: «Паняцце шчасця, як прыемнай нечаканасці».

Для большасці слухачоў, як і для большасці людзей наогул шчасце аднак — гэта не нечаканасць, але прадбачаны парадак і лад жыцця.

«У маім разуменні шчасце — гэта сямейнае жыццё ў згодзе, гармоніі, без турбот. Гэта жыццё без мукаў, без хвароб, у спакоі, цішыні, без нечаканасцей. Гэта добрая жонка, удачныя дзеці. Не лічу за шчасце выйгрышу ў таталётка». «У маім разуменні шчасце — гэта здароўе ўсіх членаў сям'і і стабілізаваныя матэрыяльныя ўмовы».

Маем новую катэгорыю шчасця. Лектар яе акрэсліць: «Шчасце, як дастатак, спакой і выгоды жыцця». Лектар чытае далей. Найбольшая частка адказаўшых на гэтую міні-анкету разумее шчасце, як агульнае задавальненне з жыцця. І слушна. Менавіта такое разуменне шчасця прапанавалі заўсёды нам спецыялісты ад «мудрасці жыцця».

«Шчасце — гэта пачуццё добра выкананага абавязку, як у асабістым, так і ў агульнаграмадскім жыцці. Гэта свядомасць, што з'яўляемся камусьці патрэбнымі і прыдатнымі». «Чалавек з'яўляецца шчаслівым тады, калі не палохае яго будучыня, калі ўмее ён знайсці выхад нават у найбольш цяжкіх сітуацыях». «Шчасцем з'яўляецца аптымізм і пагодны настрой, бо дапамагае гэта перажыць усе цяжкасці жыцця». «Шчасце — гэта задавальненне з добра пражытага жыцця».

Лектар канчае чытаць. Складае паперкі ў горбачку і пераходзіць да паясненняў. Слухачы слухаюць з паважнай мінай. Даклад працягваецца. Лектар паясняе асноўныя адрозненні паняцця шчасця, расказвае, што думалі аб шчасці розныя вялікія людзі, аналізуе грамадскія і псіхалагічныя ўмовы шчаслівага жыцця. Скончыць, і ўсе разыдуцца дахаты. Хутка забудуць аб дакладчыку, перастануць думаць аб шчасці, шукаць будуць шчасця інстынктоўна і безрэфлексійна ў звычайных дробязях штодзённага жыцця.

*Рыгор Паўлюк*

# СЯРЭБРАНЫ ЮБІЛЕЙ СОЛТЫСА З КУРАШАВА



Трэба мець сапраўды вялікую папулярнасць сярод аднавяскоўцаў, каб быць солтысам на працягу 26-ці год. Кожны, хто ведае вясковае асяроддзе, ведае і тое, якая цяжкая і адказная гэта праца.

Андрэй Сілівонюк, сёння ўжо 70-гадовы жыхар Курашава, з'яўляецца солтысам у сваёй роднай вёсцы, што знаходзіцца ў Гайнаўскім павеце, ад часу вызвалення. Ведаюць яго не толькі ў Курашаве, але амаль усе жыхары грамады Чыжы, дзе 2 разы ён быў радным ГРН. Солтыс Сілівонюк быў на чале ўсіх прац і грамадскіх чынаў жыхароў Курашава, якія на працягу 26 год Народнай Польшчы змянілі аблічча гэтай вёскі. Ён заўсёды раіў і дапамагаў, а часта першы даваў прыклад.

А змянілася ў Курашаве за пасляваенны перыяд шмат. Вёска атрымала электрычнае святло, грамадскім чынам пабудавана тут крама, пункт скупу малака, а ў 1970 годзе грамадскім чынам была пабудавана падставовая школа (грамадскі чын склаў 550 тысяч злотых). Пабудавана таксама 6 км дарогі, арганізаваўся сельскагаспадарчы гурток, пры якім сёння працуе міжгуртковая машынна-трактарная база, якая мае сёння ў сваім распараджэнні 15 трактараў з рознымі сельскагаспадарчымі машынамі. Ужо два гады курсуе аўтобус з Курашава ў Гайнаўку і Беласток. Цяпер вёска Курашава ўжывае найбольш штучных угнаенняў, якія атрымлівае непасрэдна з прамысловасці. Вёска гэтая вельмі таварная — развілося тут агародніцтва, а славутыя курашаўскія агуркі высылаюць на экспарт у Чэхаславакію.

Солтыс з Курашава, калі гаворыць аб сваёй сённяшняй працы і аб праблемах вёскі, у якой ад наймалодшых год жыве, часта вяртаецца да першых гадоў пасля вызвалення.

Усім у Курашаве было тады вельмі цяжка. Вёска была знішчана, і трэба было яе адбудоўваць нанава. Ды і сам Сілівонюк, які меў 9-гектаровую гаспадарку, вымушаны быў будаваць хлеў і іншыя гаспадарчыя будынкі, адным словам, усё ствараць ад пачатку. У тагачасную гмінную раду нарадовую, якая знаходзілася ў 18 кіламетрах ад Курашава — у Гайнаўцы, Сілівонюк мераў дарогу некалькі разоў у тыдзень найчасцей пехатою, бо ў тыя гады не хапала грошай нават на веласіпед. Насіў у гміну сабраныя падаткі, на розных нарадах і сесіях ГРН інфармаваў аб прапановах і клопатах курашаўцаў.

У першыя гады народнай улады дзяржава не магла даць вёсцы неабходнай колькасці будаўляных матэрыялаў, пазык, доўгатэрміновых крэдытаў, угнаенняў і сельскагаспадарчых машын. Ад вёскі ж дзяржава патрабавала збожжа, малака, мяса, бульбы, каб пракарміць развіваючыеся гарады і будаваць новыя прамысловыя прадпрыемствы, на якіх сыны і дочкі курашаўскіх сялян знаходзілі працу і атрымлівалі прафесію.

Сілівонюк ніколі нічога не абяцаў жыхарам сваёй вёскі, але не забываўся аб іх клопатах. Можа, таму менавіта ёсць у яго столькі сяброў.

У 1945 годзе Андрэй Сілівонюк быў адным з заснавальнікаў партыйнай ячэйкі і на працягу 15 год быў яе сак-

*(Працяг на стар. 5)*

## НАСТАЎНІКІ–ЛІТАРАТАРЫ

Літаратурны рух сярод настаўнікаў у Польшчы мае сваю доўгую гісторыю і пачаўся яшчэ ў даваенны час. Яго пачынальнікам быў вядомы паэт Юзэф Чэховіч. Пры фінансавай падтрымцы Саюза польскіх настаўнікаў заснаваў ён і ў гадах 1934—36 выдаваў «Месячнік літаратуры і мастацтва».

Пасля вайны літаратурны рух настаўнікаў прыняў арганізаваную форму. Узніклі акруговыя літаратурныя клубы Саюза польскіх настаўнікаў, працай якіх кіруе цэнтральнае праўленне.

Зараз дзейнічае 18 такіх клубаў і аб'ядноўваюць яны амаль 600 членаў. Настаўніцкія літаратурныя клубы цесна супрацоўнічаюць з Саюзам польскіх пісьменнікаў.

У Беластоцкім ваяводстве таксама існуюць такія клубы настаўнікаў-літаратараў. Асаблівую актыўнасць праяўляе клуб у Гайнаўцы.

Творчыя дасягненні членаў настаўніцкіх літаратурных клубаў адлюстроўвае літаратурны альманах «Позіркі і рэфлексіі», які ў мінулым годзе выпусціла варшаўскае выдавецтва «Наша кнігарня».

У альманаху змешчаны вершы, апавяданні і крытычна-публіцыстычныя артыкулы.

Настаўнікаў-літаратараў з Беластоцкага ваяводства прадстаўляюць:

*Януш Бернер* з Райгрода, надрукавалі яго верш «Бівак»;

*Веслаў Казанэцкі* з Беластока, надрукавалі аж чатыры яго вершы;

*Анатоль Батура* з Аўгустова, надрукавалі яго апавяданне «Памяць»;

*Ян Цялушэцкі* з Беластока (ад нядаўна наш рэдакцыйны супрацоўнік), надрукавалі яго верш «Запахі».

Сярод беластачан найлепшымі мастацкімі якасцямі выдзяляюцца творы Веслава Казанэцкага. Ён ужо з'яўляецца членам Саюза польскіх пісьменнікаў і ад нядаўна ўзначальвае літаратурны аддзел месячніка «Кантрасты».

(вр)

## НАШ ЧЫСТЫ ГОРАД

У рамах конкурсу на чысціню гарадоў Беласточчыны Гайнаўка выканала грамадскім чынам наступныя працы:

будова вуліцы Вжасовай — 200 тыс. зл.;

ўпарадкаванне могільніку Савецкай Арміі — 120 тыс. зл.;

будова пачатковай школы на вуліцы Гурнай — 250 тыс. зл.,

будова будынку ЛОК — 150 тыс. зл.;

заканчэнне будовы дзіцячай пляцоўкі — 50 тыс. зл.;

упарадкаванне скверу пры прафесіянальнай школе — 59 тыс. зл.;

разборка будынку пры школе № 1 — 35 тыс. зл.;

будова ціра — 80 тыс. зл.;

вадаправоды на вуліцы Бучка і Шапэна — 35 тыс. зл;

жужляванне вуліц — 15 тыс. зл.;

чын маладых пры ўпарадкаванні горада — 10 тыс. зл.

Разам грамадскі чын за 1970 год Гайнаўка выканала на 1 мільён 19 тысяч зл., што дае поўнае выкананне праграмы чынаў на 1970 год. (вл)

## «ГРАМАДА» І ТЭАТР СУПОЛЬНА

Агульнапольская турыстычная спулдзельня «Грамада» (ваяводскае аддзяленне ў Беластоку) і Дзяржаўны драматычны тэатр імя А. Вянгеркі ў Беластоку падпісалі пагадненне аб супольным прапагандаванні тэатральнай культуры сярод насельніцтва Беластоцкага ваяводства.

Да гэтага мерапрыемства абодва бакі прыступяць усімі даступнымі сабе сродкамі.

Наша рэдакцыя чакае, што ў выніку такой умовы больш і часцей завітае тэатр у вёскі, больш і часцей вясковыя людзі па даступных цэнах змогуць прыехаць з «Грамадой» у прыгожы гмах тэатра ў горадзе Беластоку. (вл)

Пачатак на стар. 1




ліцу роўна ў 10 гадзін вечара і сама выходзіць. Для моладзі гэта гадзіна яшчэ «дзіцячая». Хацелася б пасядзець даўжэй. Вось гэта і ёсць нашае «але». Можа лепш было б, каб нашу святліцу вёў чалавек, які менш бы лічыўся з уласным часам, для якога пабыўка ў святліцы не была б толькі службовым абавязкам, а звычайна — так як для кожнага з нас — жыццёвай патрэбай.

— Ці дзейнасць вашага гуртка БГКТ абмежавалася толькі да будовы дарогі і святліцы?

— Не, так не было. Займаліся мы многімі іншымі праблемамі. Амаль усе нашы члены БГКТ з'яўляюцца адначасова членамі Саюза вясковай моладзі і сялянскіх спартыўных калектываў. Дык летам наладжваем мы спартыўныя гульні. Асабліва многа ў нас аматараў футболу. Разыгрывалі матчы з камандамі з Орлі, Міклашоў, Крывой, Дубяжына. За спартыўную дзейнасць атрымаў я бронзавую адзнаку сялянскіх спартыўных калектываў. Супольна з гуртком Саюза вясковай моладзі і вясковай партыйнай арганізацыяй урачыста адзначалі мы знамянальныя гадавіны. Асабліва ўдачна прайшлі ў нас вечары, прысвечаныя «Грамадзе», Савецкай Арміі і 100-годдзю з дня нараджэння Леніна. Сяргей Дружба — былы будзёнавец, а пасля дзеяч «Грамады» — расказаў нам пра сваю дзейнасць, пра свой баявы шлях.

— А не прабавалі вы ставіць нейкую п'есу?

— Не, п'есы мы не ставілі. Апрацоўвалі толькі песні. Тут свае здольнасці паказалі нашы дзяўчаты: Валя Журавель, Ніна Скарчэўская, Надзя Самацюк.

— Хто вам найбольш дапамагаў у працы?

— Самым актыўным членам нашага гуртка БГКТ трэба лічыць Ілью Дружбу. Ён спецыяліст па арганізацыйных справах. Умее хутка сабраць складчыны і навесці парадак, калі хто захоча «пашумець» на танцавальных вечарынках. Вельмі многа дапамагалі нам таксама Толік Клін і Аляксандр Клін. Часта дапамагаў нам мясцовы сельскагаспадарчы гурток.

— Што ў працы Беларускага таварыства лічыце вы найважнейшым?

— Вельмі важную ролю ў дзейнасці БГКТ адыгрываюць «Ніва» і жывая беларуская літаратурная творчасць. Добра, што паэты, асабліва Віктар Швед і Алесь Барскі, вельмі часта наведваюць вёскі. У нас былі яны ўжо два разы. Людзі бачаць іх, слухаюць, знаёмяцца з імі; могуць папытаць: чаму яны пішуць па-беларуску? Адна такая сустрэча на многа больш павялічвае круг сяброў нашага таварыства, чымсьці некалькі заклікаў і дакладаў.

— Якую ролю адыграла БГКТ у вашым асабістым жыцці?

— Упершыню пачуў я пра Беларускае таварыства, калі яшчэ быў вучнем пятага ці шостага класа пачатковай школы. Чытаў я «Зорку», праглядаў «Ніву». Дзядуля расказваў мне пра даўнейшыя часы змагання. А калі паступіў у будаўляны тэхнікум у Беластоку, клуб БГКТ на Варшаўскай стаў для мяне вельмі блізкім месцам. Там я сустракаўся з дзяўчатамі і хлопцамі, там разам з імі праводзіў свой свабодны час. Не трэба было нават падаваць адрас. Мы гаварылі звычайна: сустрэнемся ў нашым клубе, і ўсе ведалі, пра які клуб ідзе гутарка. Цяпер рыхтуюся да войска. Аднак, калі адслужу, зноў вярнуся да грамадскай працы ў БГКТ.

*Гутарку правёў*
*В. Рудчык*

# СЛЕДАМ КАНТРАКТАЦЫІ

Рэч пойдзе пра кантрактацыю харчавога збожжа. Хачу толькі падкрэсліць, што гэта адна з асноўных спраў сельскай гаспадаркі і што кантрактацыя — гэта адзіны спосаб на планавы продаж збожжа гаспадарамі. Каб заахвоціць да кантрактацыі харчавога збожжа, дзяржава дае шмат ільгот. Адным словам, кантрактаваць збожжа ёсць сэнс.

Таму большасць грамадскіх рад Бельскага павета план кантрактацыі выканала. А з гэтага вынікае, што былі і такія грамады, якія накрэсленага плана не выканалі. Асаблівую ўвагу звяртаюць на сябе такія ГРН, як Бельск, Храбалы, Пасынкі, Рыбалы ды Лубін Касцельны. Аказваецца, што на іх тэрыторыі сваю дзейнасць вядзе ГС у Бельску. Трэба прыпомніць, што ГС-ы займаюцца кантрактацыяй, у тым ліку і харчавога збожжа.

Але гляньма з іншага боку. План планам, але можа ён быў так пабудаваны, што не было магчымасці яго рэалізаваць? Аказваецца, што не. У аддзеле сельскай гаспадаркі даказваюць, што іменна былі рэальныя магчымасці поўнасцю выканаць план. Як доказ прыводзіцца тут той факт, што на раён дзейнасці бельскай ГС прынята пад кантрактацыю збожжа каля 9 працэнтаў ворнай зямлі, калі ў сярэднім у павеце норма гэтая складала 12 працэнтаў.

Праглядаю дакументацыю калектываў спецыялістаў сельскай гаспадаркі, якія працавалі ў кожнай вёсцы і знаёміліся з кожнай гаспадаркай; тут знаходжу таксама сцверджанні аб значных магчымасцях кантрактацыі. Зрэшты, аб гэтым гавораць лікі гаспадароў, якія ўвогуле не прыступілі да кантрактацыі, а было іх у раёне бельскай ГС 3.261, а больш 8 тысяч закантрактавала ніжэй прадугледжанай нормы.

З вышэй сказанага здавалася б, што ў гэтым раёне павета гаспадары найбольш адсталыя і ўпартыя. Аднак не, так думаць нельга. У Бельскім павеце назіраецца недастатковае веданне гаспадарамі карысцяў, якія дае кантрактацыя. На доказ скажам, што ў 1969 годзе 33 працэнты, а ў 1970 толькі 43 працэнты гаспадароў выкупіла мінеральныя ўгнаенні на кантрактацыю, калі вядома, што на кантрактацыю яны таннейшыя. У 1969/70 гаспадарчым годзе корм для жывёлы і свіней выкупі-




Павятовая педагагічная бібліятэка ў Гайнаўцы заснавалася ў 1955 годзе. Заснавальніцай яе была бібліятэкарша з Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі ў Беластоку мгр Стэфанія Слюсарчык, якая па сённяшні дзень нязменна працуе ў спамянутай вышэй бібліятэцы. 500 кніжак, якія яна прывезла з сабой у Гайнаўку, трымаў у сваёй шафе тагачасны школьны інспектар Мікалай Самоцік. У 1961 годзе педагагічная чытальня і бібліятэка памясцілася на першым паверсе Дома настаўніка і, такім чынам, апынулася ў добрых умовах. Бібліятэка была прыведзена ў поўны парадак: паявіліся тут кніжныя вітрыны, актуальныя сценгазеты і лозунгі, заўвагі да цікавейшых педагагічных кніжак і артыкулаў, змешчаных у прэсе. Бібліятэка пачала арганізоўваць аўтарскія сустрэчы з пісьменнікамі А. Амільяновічам, Т. Сокулам, А. Брыхтам, сустрэчы з кіраўніком Інстытута доследаў над сасунамі ПАН у Белавежы др З. Пуцкам, з працаўніком Люблінскага універсітэта дац. др Т. Маргулем, літаратурным крытыкам С. Старчэўскім, педагогамі Г. Баранкевічовай і Э. Флемінгам.

Бібліятэку наведвалі настаўнікі з замежных краін: з Савецкага Саюза, Чэхаславакіі, ГДР, Югаславіі, Францыі, Італіі, Англіі, Канады і Філіпін, якія, між іншым, прыязджалі ў Белавежу.

— Зараз настаўніцкая бібліятэка ў Гайнаўцы налічвае 7216 кніжак і 419 чытачоў, — гаворыць бібліятэкарша Леантына Бартосяк. — У мінулым годзе настаўнікі скарысталі з 5000 кніжак. Найбольш кніжак прачыталі Галіна Глушык, Крыстына Косцік і Валя Суліма. Найбольш кніжак бяруць у бібліятэцы настаўнікі з Плянты, Міклашэва, Апакі Вялікай і Ахрымаў. Многія карыстаюцца кніжкамі з бібліятэк на месцы. Прыходзяць у чытальню і ліцэалісты. У чытальні можна карыстацца анталогіямі, энцыклапедыямі, слоўнікамі і часопісамі.

У чытальні ёсць радыёпрыёмнік, адаптар, плытатэка да навучання польскай мове і так званаму музычнаму выхаванню.

Настаўніцкая бібліятэка ў Гайнаўцы дапамагае маладым настаўнікам, якія або павышаюць сваю адукацыю, або рыхтуюцца да кваліфікацыйных экзаменаў. Высылае яна заказы на патрэбныя настаўнікам кніжкі ў Педагагічную ваяводскую бібліятэку ў Беластоку, у бібліятэку Варшаўскага універсітэта, у Нацыянальную бібліятэку або ў Літаратурны інстытут у Варшаве.

Варта дадаць, што пані Л. Бартосяк запланавала арганізаваць у сябе цыкл лекцый на педагагічныя тэмы, якія будуць чытаць працаўнікі Акруговага метадычнага цэнтра ў Беластоку, аўтарскія сустрэчы з Э. Брылем і Б. Чэшка, а таксама сустрэчу з вядомым педагогам А. Левіным.

*Янка Цялушэцкі*

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

### ГАРАНТЫЯ ЗА ЗАГАНЫ КУПЛЕНАГА ПРАДМЕТА

*Пытанне:* Якія правы мае той, хто купіў прадмет, які з'яўляецца няздатным да ўжытку, або мае заганы, якія абніжаюць яго вартасць?

*Адказ:* Прадавец не адказвае за заганы прададзенай рэчы, калі пакупнік ведаў аб яе заганах. Ён не адказвае таксама за заганы, якія ўзніклі пасля атрымання рэчы пакупніком, калі прычына заганы не існавала ў момант прыёму.

Ва ўсіх іншых выпадках прадавец адказвае за заганы, якія абніжаюць вартасць рэчы або робяць яе няздатнай да ўжытку.

Пакупнік можа патрабаваць ад прадаўца направы заганы, або вымены рэчы на іншую, якая заган не мае. Калі б прадавец на гэта не згаджаўся, пакупнік можа ліквідаваць умову і патрабаваць звароту заплачаных грошай. Ён можа таксама патрабаваць адпаведнага абніжэння цаны.

Пакупнік траціць гэтыя правы, калі на працягу месяца ад моманту выкрыцця заганы не павядоміць аб гэтым прадаўцу. Ён не траціць у гэтым выпадку сваіх правоў толькі тады, калі прадавец заганы затаіў або запэўніў, што рэч заганаў не мае.

Гэтыя правы канчаюцца пасля аднаго года, а адносна будынкаў — пасля трох год ад атрымання рэчы пакупнікам. Пакупнік можа дабівацца свайго толькі ў выпадку, калі прадавец заганы хітра затаіў, або на працягу першага года пакупнік паведаміў прадаўцу аб заганах.

Адказнасць за заганы ў жывёлы рэгулююцца правам інакш.

### ІЛЬГОТЫ АД ПАДАТКАЎ І АБАВЯЗКОВЫХ ПАСТАВАК

Дарагая рэдакцыя, я — самотны васьмідзесяцігадовы стары. У мяне дажывотны ўчастак ворнай зямлі. Прашу вас, вытлумачце, ці гэты ўчастак мусіць падлягаць свядчэнням для дзяржавы?

*Чытач з Беластоцкага павета*

Закон не прадбачвае звальнення ад падаткаў і абавязковых паставак гаспадарак, на якіх застаўся толькі непрацаздольны гаспадар. Прэзідыум ГРН можа прызнаць такому гаспадару ільготы. Старанні, каб атрымаць поўнае або частковае звальненне ад падаткаў і абавязковых паставак трэба рабіць кожны год.




# ЛІТАРАТУРА КІЕЎСКАЙ РУСІ

### СТАРАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА Ў ПОЛЬСКІХ АЦЭНКАХ. ЧАСТКА І.

Хаця б з тае прычыны, што ў старарускай літаратуры і асабліва ў «Повесці врэменных лет» часта паяўляліся інфармацыі аб Польшчы і аб руска-польскіх кантактах, польскія даследчыкі не маглі адносіцца абыякава да пісьмовасці Кіеўскай Русі. З увагі на тое, што старарускай літаратурай у Польшчы пачалі цікавіцца ад XIII стагоддзя і што зацікаўленне гэтае працягваецца да сённяшняга дня, паўстала грамадная навуковая літаратура, якую цяжка ахарактарызаваць на старонках «Нівы». З гэтай прычыны абмяжуемся тут толькі адносінамі польскай навукі да «Повесці врэменных лет» — твора найбольш характэрнага для руска-польскіх кантактаў і сувязей. Сваю інфармацыю раздзяляем на некалькі частак, у якіх прадставім польскія ацэнкі старарускай літаратуры ў розныя перыяды. На пачатку заўважым, што на польскім грунце прыняўся погляд аб тым, што аўтарам «Повесці» быў Нестар. Факт гэты не павінен здзіўляць чытача, які з папярэдняга ўрыўка, прысвечанага гістарычнай літаратуры, даведаўся, што дайшоўшы да нас спісак не з'яўляецца творам Нестара.

Ці палякі ведалі «Повесць» зараз пасля яе напісання, гэта значыць, у пачатку XII ст.? Можам сумнявацца ў гэтым. У кожным выпадку, у хроніцы польскага летапісца Галя, які жыў больш-менш у тым часе, што і аўтар «Повесці», не знаходзім фактаў, якія пацвярджалі б такую думку. Што праўда, у рускім летапісе і польскай хроніцы нямала падобных апісанняў тых самых гістарычных фактаў, а нават супольных мастацкіх прыёмаў, але гэтае супадзенне зусім выпадковае.

Палякі пазнаёміліся з «Повесцю», мабыць, у XIII ст. Звязаная з гэтым стагоддзем хроніка Кадлубка прадстаўляе нам некаторыя факты, якія сведчаць аб непасрэдным знаёмстве польскага аўтара з старарускімі летапісамі. У чым праяўляецца гэтае знаёмства? Перш за ўсё ў тым, што Кадлубак ужывае невядомае дагэтуль у Польшчы слова «лехіці» на абазначэнне палякаў. Няма сумненняў, што лехіты паходзілі ад старарускага слова ляхі, якое ў летапісах ужывалася вельмі часта. Доказаў, якія сведчаць аб знаёмстве Кадлубка з рускімі хронікамі на многа больш. Трэба аднак сказаць, што некаторыя з даследчыкаў гавораць аб тым, што Кадлубак чэрпаў веды аб Русі ў часе асабістых раз'ездаў па гэтай краіне. Іншыя з даследчыкаў прытрымліваюцца думкі, што Кадлубак чэрпаў інфармацыі аб Русі ад рускай княжны Елены, якая была жонкай польскага караля Казімежа Справядлівага. Калі нават прымем погляд, што Кадлубак ездзіў па Русі, або кантактаваўся з Еленай, дык ці ж гэта перашкаджае думцы аб яго кантактах з рускімі хронікамі? Наадварот, кантакты гэтыя толькі спрыялі сутыкненню з старарускай літаратурай.

Кантакт палякаў з старарускай літаратурай паглыбіўся у XIV ст. У гэтым стагоддзі Польшча заняла Галіцкую Русь і заключыла унію з Вялікім Літоўскім княствам, у склад якога, як вядома, уваходзіла Беларусь. І на землях Галіцкай Русі (Украіны) і на землях Беларусі знаходзілася, несумненна, нямала помнікаў старарускай літаратуры. Палякі пачалі даволі масава прыязджаць на гэтыя землі і мусілі з гэтымі помнікамі сустракацца. Тым больш, што ў Вялікім Літоўскім княстве належала ў гэтым часе да добрага тону перапісваць старарускія літаратурныя творы. Гэтай справай займаліся і манастыры і праваслаўныя магнаты. На грунце старарускай літаратуры пачалі зрэшты паўставаць творы старабеларускія, сярод якіх хронікі займалі пачэснае месца. Такім чынам, стараруская літаратура станавілася ўсё больш даступнай і папулярнай.

Сённяшняя навука сцвярджае катэгарычна, што рускімі летапісамі разам з летапісамі нямецкімі і чэшскімі карыстаўся слаўны польскі летапісец Длугош. Длугош не ведаў старaславянскай мовы і таму, будучы ўжо пажылым чалавекам, пачаў вывучаць гэтую мову, каб самастойна разбірацца ў старарускім летапісе. Некаторыя з даследчыкаў гавораць, што Длугош меў у сябе больш чым 10 рускіх летапісаў. Нельга сумнявацца, што была сярод іх «Повесць врэменных лет». Творам гэтым заняўся Длугош досыць шырока ў сваёй працы «Dzieje polskie». Аналіз рускага твора не заўсёды адпавядае навуковай аб'ектыўнасці. Длугош зусім свабодна і часта нязгодна з тэкстам «Повесці» карыстаецца гэтым творам. Нярэдка перарабляў ён тэкст «Повесці» так, каб падыходзіў да яго поглядаў і канцэпцыі. Некаторыя з даследчыкаў гавораць, што такому свабоднаму тлумачэнню «Повесці» спрыяла і тое, што Длугош слаба ведаў старaславянскую мову. Доказам гэтага можа быць паведамленне Длугошам аб нападзе на рускія землі нямецкага племя прусаў у тым месцы, дзе ў «Повесці врэменных лет» ідзе гутарка аб нападзе на рускія землі саранчы. Длугош памыліў назву прусаў з старaславянскай назвай саранчы «прузі». Нягледзячы на гэтыя недахопы і тэндэнцыйнасць у выкарыстанні «Повесці», Длугош, несумненна, прычыніўся да распаўсюджання і папулярызацыі гэтага твора ў Польшчы.

У XVI ст. паглыбілася зацікаўленне старарускай літаратурай у Польшчы. У гэтым стагоддзі хелмскі біскуп Якуб

 

98.

Віктар і Мірон глянулі адзін на аднаго, нібы засаромеўшыся, і адступілі на пару крокаў назад.

Таварыш, трымаючы і свой рэвальвер напагатове, адышоў убок і падняў вяроўку, якой ён быў звязаны. Бандыты не пашкадавалі на яго вяроўкі: паловы яе хапіла, каб звязаць рукі палоннаму бандыту.

— Цяпер нам трэба... — звярнуўся таварыш да хлопцаў, але скончыць не паспеў.

— Хлеб! — закрычалі тыя і кінуліся да бандыцкай торбы з прадуктамі. Вынялі хлеб, сала, соль ды яшчэ курацїну і накінуліся на ўсё гэта, як звяры. Новы таварыш і сам хацеў есці, але ў такі момант нельга было гэтым займацца.

— Таварышы! — сказаў ён з дакорам. — Што вы робіце? Пачакайце крыху. Мы яшчэ не скончылі.

— Мы месяц не бачылі чалавечай яды! — азваўся Мірон з поўным ротам.

— Мы яшчэ ў часе паводкі ехалі сюды па возеры, — дадаў Віктар. — Лодка перакулілася, і мы апынуліся тут. Гэтак і жылі цэлы месяц. А вы як трапілі да іх? Вы ведаеце, як выйсці? Пойдзем зараз.

— Пачакайце, пачакайце! — перапыніў таварыш. — Аб гэтым пасля. А цяпер у нас ёсць справа важнейшая трэба падрыхтавацца да сустрэчы новых гасцей.

— Такіх самых?

— Акурат такіх самых, — усміхнуўся таварыш. — Але спачатку трэба размясціць гэтых.

Другога бандыта адвялі туды, дзе быў першы. Старанна звязалі яго з дапамогай жардзіны, таксама заткнулі і завязалі рот, каб палонны не мог крыкнуць. Праверылі і падправілі путы першага. Затым пайшлі да раненага. Той ужо быў мёртвы. Яго адцягнулі ў зараснік, дзе толькі што хаваліся хлопцы. Падклалі галля ў агонь, раскладзены бандытамі ля забітага зубра, а самі схаваліся ў бліжэйшых да вогнішча кустах.

Тады незнаёмы таварыш сказаў:

— Зараз павінны прыйсці яшчэ некалькі чалавек з іхняй кампаніі. Трэба іх прыняць не горш, як гэтых. Вы, мае дарагія таварышы, паказалі сябе храбрымі і свядомымі савецкімі рабятамі. Думаю, і цяпер вы прымеце ўдзел у аперацыі.

— А як жа! — усклікнулі яны з радасцю.

Пад кіраўніцтвам такога таварыша новая аперацыя здавалася ім нават прывабнай. Хоць і страшнавата, і сэрца сціскаецца ад хвалявання, але затое адчуваеш, што робіш важную справу.

— Я думаю, іх будзе не больш, як два-тры чалавекі, — казаў далей таварыш. — Мы неспадзявана выскачым на іх, і яны напэўна здадуцца без бою. Тым больш, што наўрад ці яны ўсе будуць мець зброю — для іхняга зборышча яна ім непатрэбная, а насіць так рызыкоўна.

— А калі іх будзе болей? — спытаў Віктар.

— Тады пабачым, што трэба будзе рабіць. А цяпер скажыце, як вас зваць.

100.

пра сваё падарожжа, крушэнне, пра пакуты і прыгоды, пра бандытаў і іхні склад. Саўчук выслухаў іх з надзвычайнай цікавасцю, а затым сказаў:

— Хоць і ў неабдуманае, недарэчнае падарожжа вы пусціліся, але вас можна пахваліць за тое, што вы добра змагаліся за сваё існаванне, не апусцілі рук, і, як відаць, засталіся такімі ж бадзёрымі і вясёлымі. Пасля такой практыкі вам ужо ніякія нягоды не будуць страшнымі.

Так, у гутарцы, прайшло гадзіны са дзве. Сонца пачало ўжо схіляцца на захад.

— Калі не прыйдуць праз дзве гадзіны, то мы пойдзем дадому, — сказаў Саўчук.

Словы «пойдзем дадому» прагучалі для нашых хлопцаў, як нешта незвычайнае, казачнае. Няўжо сапраўды так бывае, што можна ўстаць і пайсці дадому?..

Уверсе, на дрэве, каркнула варона. Праз хвіліну каркнула на другім. Затым з'явілася варона на ніжняй галіне, потым яна спусцілася на зямлю і бокам-бокам пачала набліжацца да зубра.

— Эх, шкада гэтай цудоўнай жывёліны! — прамовіў Саўчук.

— Затое і забойца загінуў, — заўважыў Мірон.

— Ды хіба ён варты зубра? — горача ўсклікнуў Віктар. — Гэткіх бандытаў вунь колькі знайшлося, а зубр быў адзін і, можа, больш не будзе.

Каля зубра ўжо скакала некалькі варон. Іх збіралася ўсё больш і больш. Яшчэ хвіліна, другая — і яны абляпілі ўсяго зубра.

— І адкуль толькі яны ўзяліся? — дзівіўся Мірон. — Цэлы месяц мы іх тут бадай не бачылі, а цяпер глядзі колькі сабралася.

— Трэба іх разагнаць, — сказаў Саўчук, — а то ствараецца ўражанне, што тут і духу чалавечага няма, а гэта для нас нявыгадна: новапрыбыўшыя могуць занепакоіцца, куды падзеліся іх таварышы.

Віктар і Мірон стрэльнулі з рэвальвераў. Гул ад стрэлаў пакаціўся па лесе і закончыўся нібы новым, далёкім і глухім стрэлам.

— Што гэта — рэха ці нечы стрэл?

Саўчук упэўнена сказаў:

— Гэта яны стралялі ў адказ, бо гул пачуўся тады, калі рэха ўжо заціхла. Цяпер будзьце гатовы.

— Заўжды гатовы! — адказалі хлопцы весела, але ў іх галасах выразна адчувалася хваляванне, тое хваляванне, якое бывае не ад страху, а ад незвычайнасці моманту.

Далёка між дрэў замільгалі людзі. Адзін... два... тры... чатыры... Болей як быццам няма. Ну што ж — не страшна. Яны смела накіроўваюцца да вогнішча; яны добра ведаюць, што там свае. У аднаго ў руках рэвальвер, з якога ён толькі што страляў. У іншых, як відаць, зброі няма. Зусім добра!..

— Я гэтаму пераб'ю руку ці плячо, — прашаптаў таварыш Саўчук, — а тады ўсе выскачым.

І ён накіраваў на яго стрэльбу. Віктар узяў у рукі свае абодва рэвальверы. Мірон, які раней аддаў свой другі рэвальвер Саўчуку, паглядзеў на Віктара з зайздрасцю.

(Пачатак на стар. 5)




тва і пакінуць для будучых даследчыкаў шырэйшую характарыстыку.

У лесе каля Касоўкі Граеўскага павета знаходзяцца магілы 20 тысяч забітых, не пададзена аднак, хто гэта. Такіх недакладнасцей у змесце даведак многа. Безумоўна, прозвішчаў ахвяр устанавіць немагчыма, але акрэсліць паходжанне (ваеннапалонныя, яўрэі, мясцовыя дзеячы) — можна.

Сустракаюцца іншага характару недапрацоўкі, якія таксама змяншаюць значэнне даведак. Напрыклад, у вёсцы Пясутна Жалезнае, Кольненскага павета загінула 7 гарцэраў, якія былі членамі ўзброенай антыфашысцкай групы. Такія падзеі асабліва цікавяць моладзь і трэба было дадаць аб іх дзейнасці і смерці шырэйшую даведку з прозвішчамі. У вёсцы Дзерваны, Сувальскага павета гітлераўцы расстралялі 13 асоб, у тым ліку маці з васьмю дзяцьмі ва ўзросце ад 3 месяцаў да 11 год. Іх прозвішчы таксама не пададзены.

У даведцы на стар. 81 устаноўлены прозвішчы 3 ахвяр, а прозвішчы астатніх 4 не падаюцца. На стар. 88 адзін удзельнік савецкага дэсанта «Дальній» — Шурка Баравы выступае пад уласным прозвішчам, а другі — аўтар кніжкі «Валодзя» — пад псеўданімам. На стар. 130 праз нятрапнае скарачэнне зместу даведкі выглядае, што месца расстрэлаў у вёсцы Зуболе «упарадкавана і агароджана» быццам бы гітлераўцамі. На стар. 72 і 73 аб адным выпадку гаворыцца два разы, г.зн. аб месцы расстрэлаў і месцы пасляваеннага перанясення. Аналагічнае паўтарэнне выступае на стар. 51, 55 і 93, пры чым апошняе месца здарэння зусім не вядомае. На стар. 128 змешчана даведка аб факце пасляваеннага перыяду.

Адчуваецца, што не ўсе месцы змаганняў ужо выяўлены. З картасхемы Сакольскага павета вынікае, што на захад ад доўгіх вёсак — Саколкі—Крынак толькі ў Янове вядома месца расстрэлу 13 асоб. У павеце Беластоцкім ізноў няма даведак, апрача Трычоўкі, на поўдзень ад Міхалова — Беластока. Найвялікшая канцэнтрацыя месц змаганняў адзначана ў Гайнаўскім павеце, асабліва вакол Белавежскай пушчы — месцы партызанскага руху.

Графічнае афармленне прадуманае, уданае. Можна было захаваць аднолькавы загаловак кнігі, як на вокладцы, так і на двух тытульных лістах. У легендзе апушчаны значок, які выступае на ўсіх дасканала выкананых картасхемах паветаў і невядома, што абазначае. Можна было перанесці легенду з павятовых картасхем на далучаную да кнігі карту ваяводства, дзеля стварэння вобразу тэрытарыяльнага размяшчэння месц змаганняў. Адчуваецца крыху няроўнае размяшчэнне фотаздымкаў (у Манецкім і Сакольскім паветах іх няма).

Прыведзеныя заўвагі не зніжаюць вартасці публікацыі. Наадварот, яна павінна знайсціся ў кожнай бібліятэцы і быць шырока выкарыстана настаўнікамі, грамадскімі дзеячамі ў іх выхаваўчай працы.

У. ЮЗВЮК

[1]) У арыгінале:
Jan Onacik. Przewodnik po miejscach walk i męczeństwa woj. białostockiego lata wojny 1939—1945. Wydawnictwo Sport i Turystyka Warszawa, 1970.

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### СОУСЫ

У мінулым нумары гутарка была аб соусах, падрыхтаваных на падставе белай засмажкі. Сёння мы раскажам аб найбольш папулярных соусах, якія падрыхтоўваюцца на падставе так званай «румянай» засмажкі.

### ПАДСТАВОВЫ СОУС

Падставовы соус падрыхтоўваецца наступным спосабам. Лыжку масла або маргарына моцна разаграваем на патэльні, дадаем лыжку мукі і смажым, памешваючы, пакуль засмажка не будзе мець залацістага колеру. Астуджваем яе, дадаем шклянку халоднага булёну, навару з гародніны альбо вады, памешваючы, даводзім да кіпення, прыпраўляем соллю і перцам. Падставовы соус можа ўжывацца да варанага мяса, да макарона, да сасісак і сардэлек.

### ПОЛЬСКІ ШЭРЫ СОУС

На базе падставовага соусу можна зрабіць іншыя. Напрыклад, польскі шэры соус. Падрыхтоўваючы да мяса, бярэм шклянку падставовага соусу, падрыхтаванага на булёне, дадаем да яго па смаку воцат, соль, перац, цукар і (для колеру) крыху кармелю (у каструльцы лыжку цукру спырснуць вадой, растапіць, каб атрымаўся карычневы колер, а пасля развесці лыжкай вады). Падрыхтоўваючы шэры соус да рыбы, дадаем крыху разынак і ababранага ды парэзанага ў палосачкі міндаля, хвіліну варым, пасля чаго заліваем вараную рыбу.

### ГРЫБНЫ СОУС

Грыбны соус падрыхтоўваем на базе падставовага соусу, зробленага на навары з сушаных грыбоў. Да падставовага соусу дадаем пасечаныя звараныя грыбы, смятану, соль, цукар і перац.

Гэты соус вельмі падыходзіць да ячменнай кашы, да макарону, рысу, да катлет з капусты. Можна зрабіць вельмі цікавае грыбное блюда з соусам. Варым 4 вялікія сушаныя грыбы, навар бярэм на соус, а грыбы прыціскаем з двух бакоў дошчачкамі, а калі грыбы астынуць, мачаем іх у муку, узбітае яйцо і молатыя сухары, а пасля смажым на вельмі гарачым тлушчы. На вялікую талерку кладзем ячменную кашу, паліваем яе грыбным соусам і абкладаем смажанымі грыбамі.

Гэтае блюда вельмі раім вам спрабаваць — грыбоў жа сушаных напэўна не забракне ў сялянскай хаце. А варта часам пастарацца, каб з усім вядомых прадуктаў зрабіць нешта арыгінальнае і смачнае.

*Гаспадыня*

Ч. АМОРТ

ЗА КУЛІСАМІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# Тайна агента А-54

### ЛОНДАН ШУКАЕ ВАРАЛА

Такім чынам, ваенная сітуацыя, якая склалася ў Еўропе, зрабіла немагчымымі далейшыя сустрэчы ў Галандыі. Кантакты чэхаславацкай разведкі з Варалам (Франтай) перапыніліся. Аднак да гэтага часу чэхаславацкім разведвальным органам у Англіі ўдалося завязаць цеснае супрацоўніцтва з разведвальным цэнтрам нелегальных антыфашысцкіх груп (УВОД), які дзейнічаў на радзіме. Кіравалі гэтым падпольным цэнтрам палкоўнік Хуравы, падпалкоўнікі Балабан і Машын, штабс-капітан Вацлаў Маравек.

18 чэрвеня 1940 года ў прыёмны цэнтр УВОД паступіла радыёграма з Лондана, адрасаваная Бохусу (псеўданім падпалкоўніка Балабана). Яе тэкст гаварыў:

«Паведаміце час, акрамя рэгулярных сеансаў, на працягу якога мы зможам перадаваць вам, толькі «Бохусу» і «Борабу», дэпешу надзвычайнай важнасці. Яна будзе перададзена па частках. Сёмая частка, у якой указаны імёны, паступіць да вас у той жа час на наступны дзень. Словамі сёмай радыёграмы запоўніце пропускі ў шасці папярэдніх».

Пад радыёграмай з Лондана стаяў подпіс — «Мора». Гэта азначала, што яе аўтарам з'яўляецца начальнік разведвальнага аддзела міністэрства нацыянальнай абароны Чэхаславакіі палкоўнік Францішак Маравец.

І вось праз два дні ўсё стала на свае месцы. Кіраўніцтва разведгрупы і Цэнтральнага савета айчыннага фронту змагароў Супраціўлення даручыла двум сваім членам выйсці на сувязь з Франтай. Палкоўніку Хуравы трэба было арганізаваць сустрэчу і забяспечыць яе прыкрыццё: весці ж самі перагаворы павінен быў штабс-капітан Маравек. Абодва афіцэры неадкладна накіраваліся па ўказанаму ў радыёграме адрасу, сустрэліся з Людмілай Граховай і папрасілі спаткання з Франтай. Людміла Грахова зараз жа перадала гэту просьбу агенту.

Франта — доктар Пауль Хольм — выказаў гатоўнасць сустрэцца і назначыў для гэтага час і месца.

«Гэта адбылося ў адзін з летніх дзён 1940 года. Мяне наведаў невядомы, хутчэй за ўсё чэх, і папрасіў праводзіць яго на сустрэчу з Паўлем, — расказвае Людміла Грахова. — Мы выйшлі на Рынг Старой Прагі да будынка ўпраўлення дзяржаўнага забеспячэння. Сюды неўзабаве прыбыў на сваёй машыне і Пауль. Мы селі да яго ў аўтамабіль і накіраваліся ў Хелавістэ, да атэля «Губертус». Тут абодва мужчыны выйшлі і накіраваліся ў суседні лес, а я засталася ў машыне. Прыкладна праз гадзіну яны вярнуліся, па-сяброўску размаўляючы паміж сабой. Скаванасць у адносінах, якая назіралася да гэтага, узаемны недавер нібы выпарыліся...»

### АПЕРАЦЫЯ «МАРСКІ ЛЕЎ» РАСКРЫТА

Кіраўнікі чэхаславацкіх разведвальных органаў у Лондане з нецярплівасцю чакалі вестак з Прагі. 29 чэрвеня яны спецыяльнай радыёграмай папрасілі паведаміць ім аб выніках перагавораў з Франтай; 1 ліпеня ў Прагу паступае новая радыёграма наступнага зместу:

«Я зноў прашу паведаміць: ці сустрэліся з Франтай? Нішто да гэтага часу, бадай, не было такім важным для сакрэтнай службы, а разам з тым для ўсіх нашых пазіцый тут, у Англіі, як своечасовае і правільнае выкарыстанне гэтай крыніцы інфармацыі. Ад яе залежыць вельмі многае».

Гэтыя падзеі адбываліся неўзабаве пасля капітуляцыі Францыі, калі нацысты ліхаманкава рыхтаваліся да нападу на Брытанскія астравы. Таму не прыходзіцца здзіўляцца, з якой нецярплівасцю чакала англійская сакрэтная служба свежай інфармацыі аб планах Гітлера і яго генералаў.

*(Працяг будзе)*

 

# ТРЫБУНА чытачоў

### НОВАЯ ДАРОГА

Ад Ягаднікаў да Старога Корніна 3 км. Калі прыходзіць вясна, трэба добра падумаць, як прайсці да Старога Корніна, каб не набраць у боты вады. Найбольш цяжка вучням, якія штодзённа вымушаны хадзіць па такой дарозе ў школу ў Стары Корнін. І вось пасля доўгіх стараннях партыйнай арганізацыі і жыхароў вёскі ў 1970 годзе пачалася будова жвіраванай дарогі. У мінулым годзе пабудавана 2 км дарогі. Як толькі згіне снег і сыйдзе вада, пачнецца праца пры будове апошняга адрэзка дарогі. Гэта будзе адна з важнейшых дарог для жыхароў Ягаднікаў. Спалучыць яна дзве шашы Бельск — Гайнаўка і Гайнаўка — Кляшчэлі. Жыхары Ягаднікаў маюць надзею, што неўзабаве праз іх вёску будзе хадзіць ПКС. Каб толькі гэтыя мары споўніліся.

*С. В., Ягаднікі*

### ШКОЛЬНЫ МАСКАРАД

Нядаўна ў пачатковай школе ў Цялушках (Бельскі павет) быў арганізаваны баль-маскарад. У ім прынялі ўдзел вучні ад 1-га да 8-га класаў уключна. Вучні пры дапамозе бацькоў падрыхтавалі вельмі цікавыя касцюмы. Былі тут каралі і каралевы, лекары і медсёстры, гарнякі і камінары. Бацькоўскі камітэт падрыхтаваў сімвалічныя ўзнагароды за найцікавейшы касцюм. А вось узнагароджаныя: Лена Леванюк, якая прадстаўляла «ноч», Марыся Лук'янюк — «маладую», Ваня Ігнацюк — «гураля», а другі Ваня Ігнацюк — «гарняка». А Віктар Харытанюк меў касцюм камінара, Юра Ігнацюк — індзейца «Вінету». Вельмі цікавае было гэтае мерапрыемства ў школе. Усе былі вельмі задаволеныя.

*Міхась Матвеюк, Цялушкі*

### ГАРАЖЫ

Сельгасгуртоκ у Дубічах Царкоўных нядаўна пачаў будаваць гаражы на свае машыны. Будзе пабудавана таксама кузня. Матэрыялы на гэта былі прывезены яшчэ ў мінулым годзе. Хочацца адзначыць тое, што гэты сельскагаспадарчы гурток мае багаты машынны парк, і такія гаражы тут неабходныя. Ініцыятарам гэтага карыснага пачыну з'яўляюцца праўленне гуртка і прэзідыум ГРН у Дубічах Царкоўных.

*П. Дубовіч, Дубічы Царкоўныя*

### «ТРУБАДУРЫ» Ў БЕЛЬСКУ

1 сакавіка ў Бельск Падляшскі завітаў папулярны ў Польшчы эстрадны калектыў «Трубадуры». Зала кіно «Зніч» была перапоўнена. Найбольш было моладзі. Вельмі горача ўспрынялі яны рускія частушкі, а таксама песні «Калінка» і «Вера-Вера».

*К. В., Бельск Падляшскі*

### ВУЧАЦЦА

Ад 1 лютага ў Белках распачаўся вячэрні курс для дарослых з праграмай навучання пачатковай школы. Пайшлі на гэты курс усе тыя, якім перашкодзіла вучыцца другая сусветная вайна. Прыходзяць на курс людзі з суседніх вёсак. Кіраўніком курса з'яўляецца пенсіянер Міхал Іванюк, а дапамагае яму кіраўнічка школы. На вячэрнія курсы пачало хадзіць 25 чалавек, якім у асноўным каля 40 гадоў. Вучацца яны штодзённа вечарам па 5 гадзін.

*«Ярош», Гайнаўскі павет*

### ВЫБАРЫ ПРЫМІРЫЦЕЛЬНАЙ КАМІСІІ

У памяшканні ГРН у Нараўцы адбылося пасяджэнне грамадскага камітэта Фронту адзінства народа, на якім былі абмеркаваны мэты і заданні грамадскай прымірыцельнай (паяднаўчай) камісіі. Затым адбыліся выбары. У склад сяміасабовай камісіі ўвайшлі Рыгор Зданоўскі, Ян Ялеярчык з Нараўкі, Антон Пяньkoўскі з Міклашэва, Ян Леўша з Янова, Пятро Кісялеўскі з Забалоччыны, Уладзімір Янюк і Валянціна Янцэвіч са Скупава. Гэтыя людзі будуць выконваць свайго роду ролю мясцовых суддзяў, якія будуць намагацца, каб мірыць пасварыўшыхся людзей, якія з-за дробных спраў падаюць адзін на аднаго ў павятовую судовую калегію або ў суд.

Практыка ў многіх мясцовасцях паказала, што такія прымірыцельныя камісіі ўмеюць памірыць людзей. Выслухаўшы адзін і другі бок, прымірыцельныя камісіі дабіваюцца паміж імі згоды шляхам ўзаемнага перапрашэння, узаемных уступак, шляхам высвятлення ім, што справу можна ўладзіць без судовай калегіі і суда.

В. Я., Скупава

### НЯМА КАМУ ЗАНЯЦЦА

Кожную зіму моладзь вёскі Плёскі падрыхтоўвала мастацкую самадзейнасць. Усе радаваліся. Гурток БГКТ часта выступаў у сваёй вёсцы, а нават і ў навакольных з п'есамі і гумарам. Гэтай зімою ніхто не праявіў клопатаў, каб тут зноў утварыўся аматарскі калектыў. А ў Плёсках вельмі многа моладзі. 7 лютага нашу вёску наведаў гурток самадзейнікаў з вёскі Локніцы. Патрапілі яны развесяліць нашых маладых і старых. Усе захапляліся таленавітай моладдзю з суседняй вёскі.

*Л. Л., Плёскі*

### СПРАВАЗДАЧНЫ СХОД

Нядаўна ў Карыціскаx (Гайнаўскі павет) адбыўся справаздачны сход сельскагаспадарчага гуртка, да якога належаць 42 гаспадары. (У вёсцы налічваецца 45 гаспадарак). Гуртком кіруе малады энергічны гаспадар з Карыціск Янка Дарашук. Машынны парк тут вельмі скромны: 3 конныя збожжавыя сеўнікі і 3 сеўнікі для мінеральных угнаенняў, адзін малацільны агрэгат і адзін конны апырсквач. Дзякуючы гэтым машынам гурток атрымаў у мінулым годзе даход у суме 11.970 зл. Найбольшы даход даў малацільны агрэгат, які перапрацаваў у сезоне 257 гадзін; зароблена на ім 37500 зл. Вялікая ў гэтым заслуга Міхася Дарашука, які дбае аб сваёй машыне. Яна ў яго заўсёды дагледжана. Карыціскія гуртκоўцы даволі гаспадарныя, дбаюць аб развіцці сваёй вёскі. У 1969 годзе іх стараннем была праведзена камасацыя палёў, пабудавана грамадскім чынам святліца, у якой знаходзіцца клуб селяніна.

У 1971 годзе карыціскія гуртκоўцы хацелі б павялічыць свой машынны парк і атрымаць 2 трактары з поўнымі камплектамі сельскагаспадарчых машын. Аднак павятовае праўленне сельскагаспадарчых гуртκоў у Гайнаўцы не прыхіляецца да іх прапановы.

*В. С., Карыціскі*

### ПАВЯЛІЧЫЦЬ УРАДЖАЙ І ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЮ

Партыйная арганізацыя ў Крывяцічах на сваім сходзе прысвяціла шмат часу абмяркоўцы сітуацыі ў краіне. Асаблівая ўвага была звернута на заклік гарнякоў і металургаў адносна павелічэння прадукцыі. Члены партыі ў Крывяцічах таксама абавязаліся прыкласці ўсе намаганні, каб павысіць ураджай на сваіх палях і павялічыць жывёлагадоўлю.

*Янка Кірызюк, Крывяцічы*




*Дарагое Сэрцайка!*

Мне 16 год і я вучуся ў сярэдняй школе. Год таму назад пасябраваў я з дзяўчынай з маёй роднай вёскі. Мы назначалі сустрэчы. Гаварыла, што мяне кахае. І я быў ад таго шчаслівы. Аднойчы я прыехаў дамоў, выйшаў на дамоўленую лістоўна сустрэчу, а яна не прыйшла. У наступную нядзелю прыехаў я да бацькоў. У нас была забава, тут я зразумеў у чым справа. Дзяўчына мая танцавала з другім хлопцам. Падышоў я да іх і пачаў з імі гаварыць. Яна не захацела нават глянуць у мой бок. Меў я ахвоту тады ўдарыць у твар гэтага хлопца, але паўстрымаўся. Прайшло ўжо некалькі тыдняў, а я, калі ўспомню ўсё гэта, дык аж сэрца кроіцца з болю.

Дарагое Сэрцайка, што мне рабіць, каб забыць аб ёй? А ці ёй не сорамна так ашукваць?

*Віця з Сакольшчыны*

Віця! Сэрца не ведае сораму, сэрца моцна б'ецца, — калі кахае, або маўчыць. Перастаў ты быць цікавым для тваёй дзяўчыны, і на гэта няма рады. Біцца з хлопцам, які ёй спадабаўся? О не, Віця, не туды дарога. Дзяўчаты такіх не любяць і не шануюць. Дзяўчаты любяць хлопцаў амбітных, таксама як хлопцы дзяўчат. Так ці інакш, не бачу ў тваім лісце трагедыі. Ты вучань, ты маеш шмат абавязкаў, цікавейшых і карыснейшых. Вось і выхад табе просты — навука і яшчэ раз навука. А калі будзеш мець многа ведаў, дык і дзяўчаты будуць ганяцца за сяброўствам з табою.

*Сэрцайка*

### АШЧАДНАСЦЬ ЧАСУ

Сельскагаспадарчы гурток у Трасцянцы Гайнаўскага павета быў заснаваны дзесяць год таму назад. Яго прэзасам з'яўляецца ўжо некалькі кадэнцый Іван Сцепанюк. Восенню мінулага года за ахвярную працу ў сельскагаспадарчай вытворчасці быў ён узнагароджаны Сярэбраным крыжам заслугі. Іван Сцепанюк з'яўляецца адначасова радным ГРН і сельскагаспадарчым сакратаром грамадскага камітэта ПАРП. Гурток у Трасцянцы арганізаваў у сябе камісіённы пункт продажу мінеральных угнаенняў, дзе прадаўцом з'яўляецца Віктар Садоўскі. У магазіне чысціня і парадак. А калі збіраецца больш людзей за мінеральнымі ўгнаеннямі, тады на дапамогу Віктару Садоўскаму прыходзіць яго жонка. Сяляне навакольных вёсак вельмі задаволены, што гурток у Трасцянцы арганізаваў у сябе продаж мінеральных угнаенняў і зараз няма патрэбы ехаць 15 кіламетраў у ГС у Нарву. З Трасцянкі можна прывезці два разы ў дзень мінеральныя ўгнаенні. Такім чынам, сяляне эканомяць сабе дужа часу. Варта, каб іншыя праўленні сельгасгуртκоў узялі прыклад з трасцянскага сельскагаспадарчага гуртка.

*«Ярош», Гайнаўскі павет*

### СП У ГРАМАДЗЕ СТАРЫ КОРНІН

У грамадзе Стары Корнін існуе 6 гуртκоў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, у якіх вучыцца 112 чалавек. У Старым Беразове і Махнатым на III ступені СП заняткі вядзе аграном з павятовага праўлення сельскагаспадарчых гуртκоў Аляксандр Вашкевіч. Заняткі ў Моры на I і II ступенях СП вядзе аграном Ірэна Раманюк. Падрыхтоўку членаў СП III ступені з Карыціск і II-ай ступені са Старога Корніна вядзе грамадскі заатэхнік Валодзя Шэшка. Праяўляе ён вялікую ініцыятыву ў пошуках дасканальных метадаў у прысваенні сельскагаспадарчых ведаў. На яго занятках часта паяўляюцца сельскагаспадарчыя фільмы на тэму жывёлагадоўлі, механізацыі і ўгнаення зямельных угоддзяў.

Трэба сказаць, што ўсе выкладчыкі стараюцца, каб іх вучні былі належна падрыхтаваны да прафесіі селяніна.

*Васіль Сегень, Стары Корнін*

### ГАЙНАЎСКІ ХОР

Сёлета гайнаўскі хор аддзела БГКТ вельмі актыўны — часта ён выязджае з канцэртамі. Выступленне хору з'яўляецца свайго роду канцэртам па заяўках. Паасобныя песні прысвячаюцца дзеячам тых мясцовасцей, у якіх хор выступае. Сярод гэтых дзеячоў знаходзяцца перадавыя сяляне, актывісты БГКТ, ЗМВ, гуртка вясковых гаспадынь, радныя і т.д.

Нядаўна гайнаўскі хор выступіў у Ляўкове.



*Салісткі Вера Саенка і Оля Кэндысь.*



*Вася Раманюк і Міхась Чыквін адначасова іграюць і спяваюць.*



*Жыхары Ляўкова падчас канцэрта.*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Oddział Turbaczowa" (radz.), 30—31.III. „Dżamila" (radz.), 1—2. IV. „Dziura w ziemi" (polski), 3—4.IV.

**НАРАЎКА**

„Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), „Siódmy rok miłości" (NRD), 31.III. — 4.IV.

**НАРВА**

„Doczekać zmroku" (USA), „Wkrótce nadejdzie wiosna" (radz.), 31.III. — 4,IV.

**ЧЫЖЫ**

„Szkice warszawskie" (polski), „Sól ziemi czarnej" (polski), 31. III. — 4.IV.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Powrót rewolwerowca" (USA), „Zbyszek" (polski), 31.III — 4.IV.

**АРЭШКАВА**

„Raj na ziemi" (polski), 3 — 4. IV.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Grzech Azizy" (ZRA), „Pali się moja panno" (czeski), 31.III. — 4.IV.

**ОРЛЯ**

„Dwaj panowie bez parasola" (rumuński), „Rozbójnicy sycylijscy" (włoski), 31.III. — 4.IV.

**РАЙСК**

„Jak rozpętałem II wojnę światową" (polski), 31.III. — 4.IV.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Samolot odlatuje o 9-ej" (radz.), 30 — 31.III. „Smog" 1 — 2.IV. „Popierajcie swego szeryfa" (USA), 3 — 4.IV.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Dr Fabrizus działa" (NRD), 30 — 31.III. „Ostatnie wakacje" (radz.) 1 — 2.IV. „Zdarzenie" (jugosł.), 3 — 4.IV.

**ЯНАЎ**

„Nad jeziorem" (radz.), 31.III. — 4.IV.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Miłosne kłopoty" (radz.), 30 — 31.III. „Rozwód z miłości" (polski), 1 — 2.IV. „Popierajcie swego szeryfa" (USA), 3 — 4.IV.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Zabawy w muzeum" (węgierski), 30 — 31.III. „Popioły" (polski) 1 — 2.IV. „Białe słońce pustyni" (radz.), 3 — 4.IV.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Listek figowy" (węgierski), „Mój pies Wulkan" (radz.), 31. III. — 4.IV.

**НОВЫ ДВОР**

„Operacja Belgrad" (jugosł.), „Uzurpatorzy" (węgierski), 31.III. — 4.IV.



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7352 E-3

